

№ 17 (178)
Май 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



## На тым тыдні...

● У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі **24 красавіка** адкрыта **беларуска-латышская выстаўка «Глейна»**. Яе стваральнікі – віцебскі арт-праект «Пантон», Даўгаўпілская асацыяцыя мастакоў, Музей Марка Шагала ў Віцебску, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

Выстава знаёміць з творчасцю 54 мастакоў некалькіх пакаленняў і розных плыняў сучаснага выяўленчага мастацтва. Удзельнікі праекта належаць да дзвюх мастацкіх школаў, якія далі свету Марка Шагала і Марка Ротку. У адной экспазіцыйнай зале аб'ядналі іх агульныя вытокі творчасці, адзіная гісторыка-культурная прастора і духоўная сувязь. Сімвалізуе яе Рака. Дзвіна–Даўгава – гэта пераемнасць традыцый, узаемасувязь, узаемаўзбагачэнне латышскай і беларускай культураў. Паводле задумы арганізатараў выстаўкі, кожны ўдзельнік праекта – сімвалічная глейна (так здаўна славяне, якія жылі на Дзвіне, называлі звёны, з якіх збіралі плыты). І 54 мастакі – гэта 54 глейны вялікага плыта, які паўгода вандруе па Беларусі. А кожны ахвочы зможа яшчэ пабачыць выстаўку, якая ў музеі гісторыі і культуры экспануецца да 22 траўня.

● **27–28 красавіка** ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адбылося першае пасяджэнне Міжнароднага савета па праекце віртуальнай рэканструкцыі дакументальнай спадчыны і кніжных збораў Радзівілаў, на якім прысутнічалі прадстаўнікі дзяржаўных структур і спецыялісты з архіваў, бібліятэк, музеяў Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны, Расіі. Справаздача аб рабоце савета будзе апублікавана ў наступных нумарах «КГ».

● **28 красавіка** ў г. Нясвіжы адбылася цырымонія адкрыцця памятнай дошкі, якая сведчыць аб уключэнні Архітэктурна-культурнага ансамбля рэзідэнцыі рода Радзівілаў у Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКО.



*Лепшае, што нам дае гісторыя, – гэта энтузіязм, які яна ўзбуджае*

*І. Гётэ*



# «Жыву ў Беларусі...»

***У рамках акцыі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся» 24 красавіка 2007 года ў СШ № 180 г. Мінска прайшоў семінар кіраўнікоў музеяў, арганізаваны камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, Мінскім дзяржаўным турыстка-экалагічным цэнтрам дзяцей і моладзі.***

Яшчэ задоўга да пачатку семінара пераапранутыя ў нацыянальнае адзенне вучні, народныя песні, шчырыя дзіцячыя ўсмешкі напоўнілі калідоры школы святочнай урачыстасцю. Дзяўчынка і хлопчык у касцюмах гномікаў, ласкава запрашалі ў незвычайны «Горад майстроў», які размясціўся перад актавай залай. А вызначаўся гэты горад тым, што замест вуліц і дамоў у ім былі выставы мастацкіх прац вучняў. Гэта і карціны, прычым не толькі маляваныя, але і вышытыя, і мініяцюрныя караблікі, гарматы, створаныя рукамі хлопчыкаў.

Распачаўся семінар з выступу загадчыка аддзела краязнаўства МДТЭЦДзіМ Валянціны Іванаўны Яргольскай. Яна паведаміла прысутным пра V этап Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край». Затым выступіла дырэктар школы Ганна Анатольеўна Астроўская.

Потым гучалі аповеды пра знакамітага земляка, Героя Савецкага Саюза Фёдара Аляксеевіча Малышава. Намеснік кіраўніка музея СШ № 44 Марыя Міхайлаўна Зайкоўская расказала пра Я. Купалу і Я. Коласа ў сістэме дзяржаўна-культурных і духоўна-эстэтычных прыярытэтаў XXI стагоддзя.



Адным з самых цікавых быў выступ кіраўніка музея СШ № 90 Станіслава Браніслававіча Холева пра тапаніміку сталіцы.

Спачатку ён расказаў пра тое, якія раней былі назвы вуліц Мінска, першапачатковыя (напрыклад, Юр'еўская, Татарская слабада). Пасля таго, як горад увайшоў у склад Расійскай імперыі, вуліцы пачалі называць у гонар вядомых людзей, прычым, часта тых, якія да Беларусі не мелі ніякага дачынення. У XX стагоддзі сітуацыя таксама была не лепшай. Цяпер ужо адбываюцца нейкія зрухі да лепшага. Напрыклад, сталічныя ўлады даюць новым мікраракёнам назвы вёсак, на месцы якіх яны пабудаваны. Дарэчы, як паведаміў Станіслаў Браніслававіч, да сённяшняга часу ў тэрыторыю Мінска ўвайшло больш за 80 вёсак і 40 фальваркаў. Шкада, што назвы толькі некаторых з іх захаваліся ў тапаніміцы сталіцы.

«Жыву ў Беларусі...» Пасля заканчэння семінара, напэўна, кожны яго ўдзельнік дадасць: «...і тым ганаруся».

*Ігар ГРЭЧКА, фота аўтара*







# Народныя традыцыі, фальклор — не толькі гісторыя

## Нататкі з семінара

***24–25 красавіка Установа адукацыі «Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі» (НЦМТДзіМ) Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь наладзіла ў Мінску рэспубліканскія фальклорныя «Юраўскія чытанні» для педагогаў і спецыялістаў этнакультурнага профілю ўстаноў адукацыі.***

Удзельнікам чытанняў былі прапанаваны тры грунтоўныя даклады: «Роля і значэнне рэгіянальных культурных традыцый і помнікаў фальклору ў арганізацыі вучэбна-выхаваўчай дзейнасці ўстаноў пазашкольнага выхавання і навучання» намесніка дырэктара НЦМТДзіМ Н. Васільчанка, «Культурна-асветніцкая дзейнасць музея як сродак патрыятычнага выхавання дзяцей і моладзі» дырэктара Дзяржаўнага літаратурнага музея Максіма Багдановіча Т. Шэляговіч і «Юр'я ў сістэме каляндарнай абраднасці беларусаў» старшыні ГА «Беларускі саюз фалькларыстаў» В. Ліцьвінкі.

Выступоўцы (літаратуразнаўцы, выкладчыкі ВНУ, музейныя супрацоўнікі, кіраўнікі секцый НЦМТДзіМ, патрыятычных клубаў і фальклорных гурткоў, настаўнікі з розных рэгіёнаў краіны) запынілі сваю ўвагу на ролі вуснай народнай творчасці для станаўлення беларускай нацыі, яе культуры і літаратуры (на прыкладах творчасці Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, а таксама на творах сучаснай літаратуры), на дзейнасці сучасных шматлікіх фальклорных гурткоў і самадзейнай тэатральнай творчасці, на адаптацыі народнага абрадавага свята ў сучасных урбаністычных умовах, на выхаваўчым патэнцыяле беларускай традыцыйнай культуры і інш. Зразумела, ва ўсіх выступленнях вялікае значэнне надавалася юраўскім песням як веснавому цыклу народнай каляндарна-абрадавай паэзіі, што выконваліся ў час святкавання Юр'я (Юрая), што на Беларусі пачыналася прыкладна з 23 красавіка па старым стылі. У гэты дзень звычайна сяляне з рознымі рытуаламі першы раз выганялі жывёлу на пашу, урачыста абходзілі свае палеткі, наладжвалі ў полі снеданне. Юр'ю надавалі вялікую пашану як моцнаму мужчыне, чакаючы, што ён паспрыяе веснавому абуджэнню прыроды (руні, траве, кветкам, расе), а заадно паспрыяе моладзі ў яе каханні і сямейным шчасці.

Удзельнікі семінара абмяняліся вопытам, як і ў якіх рэгіёнах Беларусі лепш арганізаваць святкаванне Юр'я ў сучасны момант, каб далучыць моладзь да духоўных набыткаў нашага народа (усіх вельмі кранула выступленне прадстаўнікоў патрыятычнага клуба «Спадчына» Дварэцкай СШ Дзятлаўскага раёна, калі на тэму «Этнакультурнае выхаванне моладзі праз далучэнне да беларускага казачнга эпасу і сімволікі прыродных вобразаў у творчасці Максіма Багдановіча» прамаўлялі кіраўнік Н. Ляўкевіч і вучаніцы малодшых класаў, якія прачыталі творы класіка, а таксама свае вершы, прысвечаныя яму). Адбыліся азнаямленні з экспазіцыяй Дзяржаўнага літаратурнага музея Максіма Багдановіча і Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь (традыцыя тэатра батлейкі), канцэрт «Юраўскі карагод», выстава-продаж навуковай, вучэбна-метадычнай і беларускай мастацкай літаратуры, а на заканчэнне – «круглы стол» на тэму «Праблема вывучэння, адаптацыі і выкарыстання народных традыцый вусна-паэтычнай творчасці, тэатральнай і музычнай культуры ў сучаснай сістэме адукацыі».

На семінары прысутнічаў і выступіў пра адлюстраванне розных народных абрадавых традыцый, фальклору на старонках «Краязнаўчай газеты» намеснік галоўнага рэдактара выдання Генрых Далідовіч.

***Ул. інф.***

*Рэпліка*

## ...І Мінск напужаецца, але захопіцца?

Нядаўна ў друку паведамілі, што быў вельмі ўзрушаны Гомель, дзе з'явіўся... дракон. «Адзіны, дарэчы, на ўсю Еўропу» – з гонарам паведаміла адна з нашых дзяржаўных газет.

Што ж за дзіва такое ды яшчэ ў вышыню ці не ў 8 метраў? Аказваецца, «гэта – унікальны атракцыён, створаны ў Галівудзе», «атракцыён вельмі забаўляльны. Дракон – сапраўднае страшыдла з разяўленай пашчай, якая выпускае клубы дыму, і, здаецца, зубы так і гатовы ўпіцца ў цябе. Чалавек, які захоча пахадзіць унутры дракона, зможа паназіраць, як працуюць яго сэрца, печань і г.д., а ноччу, калі допуск туды дазволены толькі дарослым, іх чакаюць такія сюрпрызы, ад якіх па целе прабягаюць дрыжыкі. Пасля Гомеля ў першай дэкадзе мая дракон паедзе пужаць народ у Мінск».

Вось так! У старажытнасці гаварылі: калі не маеш сваёй моцнай арміі, то будзеш карміць чужую, заваёўніцу. Так і з вуснай народнай творчасцю беларускага народа. Не ведаем яе і не прапагандуем – будзем даваць карміцца чужаземным фірмам, што маюць права на паказ заморскага страшыдла. Па-першае, чаму мы павінны быць у захапленні ад іх, злых пачвар (розных трох-шасці-дзевяцігаловых змеяў, цмокаў і інш., што адлюстраваныя і ў беларускім фальклоры?). Па-другое, чаму гэтак упарта не хочам ушанаваць тых з нашай вуснай народнай творчасці асілкаў, волатаў з народа, хто перамагаў крывапіўную брыду, якая прэтэндавала на ўсёўладнае жорсткае і звышкарыслівае панаванне і глумленне над безабароннымі, і ратаваў ад яе родны люд? Сімвалы народных заступнікаў Кацігарошка, Удовінага сына і інш. нам, нашчадкам выратаваных, непрыемныя, лішнія? Па-трэцяе, што, апроч страху і жудасці, нездаровага інтарэсу, упіваецца ў нас?..

***Наш кар.***

*З бібліятэкі «КГ»*

## Чароўныя змеі




Пад такой назвай у гэтым годзе, у Бабруйску, накладам усяго 200 асобнікаў выйшла навукова-папулярнае выданне вядомага навукоўца, фалькларыста, краязнаўца Аляксея Ненадаўца. У кнізе ўпершыню ў беларускай міфалогіі даследуюцца і падаюцца старажытныя вобразы вужа і гадзюкі. Гэтыя архетыпы разглядаюцца ў кантэксце індаеўрапейскай міфалогіі ў наступных раздзелах: «Чаму яны заварожваюць?», «Вуж – валадар падводнага царства», «Народныя павер'і, звязаныя з вужамі», «Вужы ў беларускіх замовах», «Прыгожая і страшная гадзюка», «Павер'і, звязаныя з гадзюкай», «Змяя ў народных замовах», «Заклінаючы словам».

Як адзначае аўтар, даследаванне разлічана на тых, хто ў колішнім пакланенні прыродзе, яе абагаўленні, па-ранейшаму бачыць непаўторнае, прыгожае і самабытнае.

***Веснавое Юр'е, якое адзначаецца 6 мая, – адно з любімых старажытных святаў для жыхароў вёскі Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Яго штогод ідуць гукаць удзельніцы фальклорна-аўтэнтычнага гурта «Міжрэчча» Пагосцкага сельскага клуба.***

## Любімае свята

Раніцай жыхаркі вёскі Пагост пякуць каравай, які потым упрыгожваюць кветкамі:

*Каравай, каравай,*
*Мы цябе нараджаем.*
*Ой, венцэ, венцэ,*
*зелёнэ бервенцэ!*
*Ой, венцэ, венцэ,*
*зелёнэ бервенцэ!..*

Калі ўжо праспяваецца песня, то адна з жанчын тры разы падымае ўверх каравай і гаворыць:

*Каравай, каравай,*
*мы цябе праслаўляем*
*І шчасцем, і доляй.*
*Дай, Божа, нам усё меці,*
*Разам усім Юр'я згуляці.*

Іншыя жанчыны трымаюць у руках галінкі з самаробнымі кветкамі. Потым на граблі вешаюць зялёны фартух, што сімвалізуе поле, багаты ўраджай, прыбытак у гумне і ў хаце гаспадара.

Мужчына падымае каравай і водзіць яго, жанчыны робяць узмахам рук тры крыжы. Са словамі «Каб свяціла сонца яснае, каб жылі людзі шчасліва» выносяць з хаты каравай і ўжо ідуць па ўсёй вёсцы да поля. Наперадзе хлопчык з іконай Святога Георгія, а ўслед за ім – хлопец з васьміканцовай зоркай, далей нясуць зялёны фартух на граблях, а дзве жанчыны «арку з ручнікоў» і ўжо потым каравай. У поле ўсе ўдзельнікі праходзяць праз «арку» у тым парадку, у якім ішлі да поля. Святар асвячае яго вадой і малітвай. У гэты час удзельніцы «Міжрэчча» цалуюць абраз. Потым водзяць супраць сонца карагод, у сярэдзіне якога знаходзіцца хлопчык з іконай Святога Георгія, а таксама граблі з зялёным фартухом. І кажучы «Без Бога не да парога. Няхай Бог дасць нам дождж і добры ўраджай», удзельнікі абраду чапляюць на граблі замест зялёнага фартуха – чырвоны, на здароўе.

З поля ў вёску вяртаюцца зноў праз «арку». Ходзяць па дварах, віншуюць гаспадароў са святам, водзяць карагоды і пяюць: «Зарадзі, Божа, жыта, ды на новае лета».

Адрадзіць гэтае колішняе свята, як і Каляды, Стрэчанне, Троіцу, «Зліўкі» (абрад бабкі-павітухі ў час нараджэння дзіцяці), выкліканне дажджу, абарону вёскі ад бяды, а таксама абрадавыя і пазаабрадавыя песні «Нарадзіўся Сын Божы», «Ой, вясна», «Ой, жні, Гале, жыто», «Мы ў цэркві бывалі», танцы «Мікіта», «Карапет», гульні «Масленіца», «Біткі», «Шпікер», удалося дзякуючы ўдзельніцам «Міжрэчча» Зоі Рыгораўне Кузьміч, Марыі Дзянісаўне Валанцэвіч, Аляксандры Мікітаўне Зохне, Лідзіі Аляксееўне Лазарчук, Кацярыне Аляксееўне Панчэні, якія з'яўляюцца сапраўднымі носьбітамі колішніх святаў і абрадаў. Для гэтых жанчын традыцыйная народная культура – глыбінны пласт цывілізацыі, звязаны з лёсам нацыі, а мясцовая каранёвая культура – з'ява паўсядзённага жыцця.

Іх выступленні раскрываюць адметнасці традыцыйнай мастацкай культуры Тураўшчыны. Натхнёна гучаць галасы жанчын. Непаўторная прыгажосць песень – адно з яскравых фарбаў на вялікім маляўнічым палатне народнай культуры. Амаль усе ўдзельніцы калектыву выдатна ткуць і вышываюць. Каб гэта духоўнае і матэрыяльнае багацце не адышло ў нябыт, загадчыца Пагосцкага сельскага клуба Кацярына Аляксееўна Панчэня і стала стваральнікам аўтэнтычнага гурта «Міжрэчча». Любоў да роднай спадчыны навучыла Кацярыну Аляксееўну па-сапраўднаму цаніць непаўторную прыгажосць мясцовых песень, глыбокі філасофскі сэнс старажытных святаў. Дарэчы, вёска Пагост – адна са старэйшых на Палессі. І вось ужо на працягу многіх стагоддзяў яна з'яўляецца цэнтрам актыўнага бытавання народных святаў. Трымаюць свой спрадвечны культурны «парадак» дваццаць жанчын – выдатных знаўцаў мясцовага фальклору.

Свае веды аб традыцыйнай культуры яны перадаюць наступнікам. Дзеці з задавальненнем далучаюцца да абрадавай сітуацыі, спяваюць, танцуюць, пераймаючы мясцовую манеру выканання. А гэта значыць, што культура нашага народа будзе жыць вечна, ніколі не згасне.

***Абрад «Юраўскі карагод» вёскі Пагост, які з'яўляецца жывой формай аднаго з аўтэнтычных абрадаў вясновага цыклу Цэнтральнага Палесся, адпавядае двум крытэрыям адбору для надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці. Названы абрад з'яўляецца адметнай для Цэнтральнага Палесся традыцыяй. Ён складаецца з выдатных узораў старажытных карагодаў і песняў, а таксама такіх матэрыяльных праяў рэгіянальнай культуры, як народны касцюм і абрадавы хлеб (каравай).***

***Таму навукова-метадычнай Радай прапанавана ўнесці ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь «Юраўскі карагод» і надаць гэтай каштоўнасці другую катэгорыю.***

***Людміла МЕЛЬНІКАВА, г. Гомель***

# Лозаўскі бой

*У гістарычных даведніках прыводзяцца звесткі аб найбольш буйных баях беларускіх партызан супраць нямецкафашысцкіх акупантаў. На жаль, там няма ўпамінання яшчэ аб некаторых баях, якія ўпісалі слаўныя старонкі ў гісторыю барацьбы беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.*

*Лозаўскі бой нанёс карнікам вялікія страты. Але ўсё па парадку.*

8 сакавіка 1943 года агульны сход камуністаў атрада № 256 Клічаўскага аператыўнага цэнтра абраў Журавіцкі падпольны РК КП(б)Б і прыняў рашэнне на базе атрада і груп М.А. Труснова і Ф.А. Шылава, якія дзейнічалі ў суседніх раёнах, стварыць партызанскую брыгаду. 11 сакавіка такая брыгада была створана і атрымала назву 10-я Журавіцкая (камандзір С.М. Белых, камісар І.М. Дзікан, начальнік штаба П.К. Антонаў). У дзень арганізацыі яна налічвала 500 партызан і працягвала хутка расці, што дазваляла наносіць моцныя ўдары па ворагу. 19 красавіка брыгада адначасова разграміла 7 варожых гарнізонаў.

Гэта было апошняй кропкай цярпення нямецкага камандавання. Для знішчэння партызан яно накіравала буйную карную экспедыцыю, задачай якой было акружэнне лесу паміж вёскамі Каменка і Раскава, дзе размяшчалася 10-я Журавіцкая брыгада. У аперацыі ўдзельнічалі нямецкі полк рэгулярных войскаў, зводны полк з гарнізонаў Рагачова, Жлобіна, Буда-Кашалёва, Чачэрска, Кармы, Прапойска, Чэрыкава, Крычава, Журавіч, Гомеля, падраздзяленне «рускай вызваленчай арміі» (800 кавалерыстаў) – усяго звыш 5 тысяч карнікаў з танкеткамі, бронемашынамі, артылерыяй. Брыгада да пачатку баёў была самай шматлікай у Беларусі. У яе склад уваходзілі атрады: 256-ы (камандзір Я.І. Штапенка), 260-ы (І.М. Гаўрылаў), 261-ы (М.П. Жураўлёў), 262-і (Ф.Л. Шылаў), 263-і (П.Е. Мацюшкоў), 264-ы (В.А. Трубачоў), 265-ы (П.П. Рымароў), 108-ы (М.А. Трусноў) і ўзаемадзейнічаў асобны атрад У.Б. Паўлава (у маі ўключаны ў брыгаду як 266-ы). У гэтых фарміраваннях налічвалася 2 494 партызаны з узбраеннем: 2 101 вінтоўка, 96 кулямётаў, 68 аўтаматаў, 24 мінамёты, 45-мм гармата. 24 красавіка ў брыгаду для ўзгаднення плана барацьбы супраць карнікаў прыйшла невялікая група з 8-й Рагачоўскай брыгады на чале з сакратаром Рагачоўскага РК КП(б)Б С.М. Свярдловым і сакратаром РК ЛКСМБ камісарам брыгады А.А. Біруковым. З імі знаходзіўся і сакратар Чачэрскага падпольнага райкама партыі М.Ц. Падаляк, які з радыёстанцыяй і радыстамі прыбыў з савецкага тылу.

Да 26 красавіка карнікі выйшлі на зыходныя пазіцыі: рэгулярны полк заняў Мяркулавічы і Крыўск, зводны полк – Доўск, Серабранку, Гадзілавічы, кавалерыя «РВА» – Дзербін. У ноч на 27 красавіка асноўныя сілы 10-й Журавіцкай брыгады перайшлі ў Лозаўскі лес. На месцы засталіся 265-ы атрад і атрад У.Б. Паўлава. А 7 раніцы нямецкія войскі пачалі акружаць іх, першапачаткова кінуўшы сюды 1 500 салдат, 4 танкеткі, 4 бронемашыны і артылерыю. З 8 раніцы пачаліся сутычкі з партызанамі, якія манеўравалі і адбівалі атакі то ў адным, то ў іншым месцы, не даючы нямецкаму камандаванню акрэсліць мяжу сваёй абароны. Пасля кожнай такой атакі немцы метадычна вялі абстрэл з гармат па розных кварталах лесу, якія партызаны пакідалі. За дзень народныя мсціўцы адбілі 10 атак, знішчылі каля 40 фашыстаў і з наступленнем цемры здзейснілі пераход у Лозаўскі лес. На досвітку 28 красавіка, абклаўшы шчыльным колам пакінутае партызанамі месца, пасля артпадрыхтоўкі карнікі пайшлі ў атаку, але там нікога не знайшлі. Час быў выйграны.

Брыгада падрыхтавалася да абароны. Падрыўнікі замініравалі дарогі з боку Лозава і ў месцах, дзе маглі прайсці танкеткі. Адзіную гармату і батальённыя мінамёты ўстанавілі таксама з боку Лозава. Да трох гадзін ночы 29 красавіка карнікі занялі вёскі Зорка, Раманаўка, Малінаўка, Падзёлы, Лозаў, Царкоўе, Рагінь, Любань, Негаўку і абкружылі Лозаўскі лес з усіх бакоў.

А 9 раніцы пачалася першая атака. 300 коннікаў з боку Лозава лавінай рынуліся на пазіцыі 256-га і 260-га атрадаў. На гэтым самым небяспечным накірунку знаходзіўся камбрыг С.М. Белых. Калі да пазіцыі партызан заставалася 400 метраў, ён загадаў адкрыць агонь. Кулямётны, гарматны і мінамётны агонь быў настолькі шчыльным, што ўсяго за некалькі хвілін поле аказалася ўсеяным трупамі коней і ўласаўцаў. 25 коней без вершнікаў уварваліся ў лес і сталі трафеямі партызан. Нямногім удзельнікам гэтай атакі ўдалося адысці. Пад прыкрыццём артылерыйскага агню на гэты накірунак вораг кінуў бронемашыны і танкеткі, але яны натрапілі на міннае поле. Загаварыла партызанская гармата І. Дышлава. Трапнымі стрэламі яна падбіла танкетку і бронемашыну, астатнія павярнулі назад. І. Дышлаў перанёс агонь на варожую аўтакалону, што паказалася з Лозава. Па ёй ударылі і мінамёты. Адзін з снарадаў трапіў у «опель», у выніку чаго загінуў камандзір нямецкага палка, які кіраваў боем. На працягу гадзіны вораг не наступаў. Мінамётным агнём падбілі некалькі аўтамашын.

Пасля гэтага фашысты дзейнічалі больш асцярожна, спрабуючы знайсці слабыя месцы ў партызанскай абароне, але ўсюды траплялі на шчыльны агонь. Шалёная атака на пазіцыі 262-га і 263-га атрадаў прывяла да вялікіх страт сярод карнікаў. Вораг змог наблізіцца да баявых парадкаў 261-га атрада. Партызаны контратакавалі і прымусілі немцаў уцякаць. І толькі мінамётны агонь прымусіў народных мсціўцаў павярнуць у лес.

Каля 18 гадзін нямецкае камандаванне кінула свае войскі адначасова з трох бакоў. На ўчастку 263-га атрада ім удалося ўварвацца ў лес, але дзве роты 265-га атрада на чале з К.М. Драчовым, якія падаспелі сюды, выправілі становішча. Апошнюю атаку немцы правялі супраць 265-га атрада. Сумесна з групай рагачоўскіх партызан яна была адбіта. З наступленнем цемры бой пачаў сціхаць. А 22 гадзіне праціўнік пачаў адводзіць свае войскі. Гераізм народных мсціўцаў аказаўся вышэй за пераўзыходзячыя сілы ворага. Нават параненыя, калі маглі трымаць зброю, вярталіся ў строй. Гераічна загінуў кулямётчык Пётр Пятровіч Мішын, які не далячыўся пасля папярэдняга ранення, зноў лёг за кулямёт «Максім» і трапна страляў па фашыстах.

Партызаны страцілі ў баі 29 забітымі і 32 параненымі. Былі разбіты 3 станкавыя і 5 ручных кулямётаў, выйшла са строю гармата.

Вораг страціў, па звестках партызан, 680 забітымі і звыш тысячы параненымі, танкетку, бронемашыну, 23 аўтамашыны. Гітлераўцы ў сваім друку, як успамінаў былы камандзір 266-га атрада У.Б. Паўлаў, назвалі лічбу сваіх страт 750 забітымі. Так бясслаўна скончылася чарговая карная аперацыя фашысцкіх войск супраць беларускіх партызан.

Пасля адыходу варожых падраздзяленняў С.М. Белых аддаў загад брыгадзе зняцца з абароны і паатрадна рухацца ў напрамку Стоўпні. Штаб ішоў асобна. У непрагляднай цемры вандравалі як групы партызан, так і карнікаў – тыя, хто адбіўся ад сваіх. На адну з такіх груп і натрапіў штаб брыгады. Каб высветліць, хто перад ім знаходзіцца, С.М. Белых назваў пароль. У адказ прагучала аўтаматная чарга, якая абарвала жыццё таленавітага і мужнага камбрыга. Штабное падраздзяленне разграміла карнікаў, быў цяжка паранены сакратар Рагачоўскага падпольнага райкама партыі С.М. Свярдлоў. Труп С.М. Белых у цемры не змаглі знайсці. На досвітку яго пахавалі жыхары вёскі Малінаўкі.

1 мая брыгада спынілася каля вёскі Турск. Тут адбылося пасяджэнне Журавіцкага падпольнага райкама партыі. Падвялі вынікі Лозаўскага бою і зацвердзілі новага камандзіра брыгады – лейтэнанта І.М. Гаўрылава. С.М. Белых вырашылі перапахаваць. Пахаванне адбылося каля вёскі Рыскава 4 мая. Зшыхтаваліся ўсе атрады, сабраліся жыхары навакольных вёсак. У многіх на вачах былі слёзы. Труну з целам бясстрашнага камандзіра брыгады малодшага лейтэнанта-пагранічніка Сцяпана Мітрафанавіча Белых апусцілі ў магілу пад трохкратны салют.

Так закончыўся знакаміты Лозаўскі бой.

*Уладзімір БУРАЧОНАК,*
*г. Светлагорск*

# «Не забывай ніколі...»

*...Чацвёра дзяцей выхавала Вольга Мартынаўна Ткачова з вёскі Цітаўка Мілаславіцкага сельсавета, што ў Клімавіцкім раёне. Двое, якіх лёс параскідаў па свеце, маюць вышэйшую адукацыю. А вось сястра, паўтарагадовая Тамара, не выжыла ў час вайны.*

*Мужа Вольгі Мартынаўны, Ігната Васільевіча, якога вы бачыце на верхнім здымку, таксама забрала вайна. На адваротным баку гэтага фотаздымка, дасланага жонцы перад вайной, яшчэ можна прачытаць: «У радах РККА, памяць прызыву, гор. Магілёў, н/д, с.п. 33, с.д., 30.11.1935 г.»*

*Зараз дзецям вядома толькі, што ён перад самай вайной служыў у Рэчыцы. Захаваўся ў сямейным альбоме і яшчэ адзін стары даваенны фотаздымак загінулага бацькі з подпісам «На добрую памяць дарагой Вользе Мартынаўне. Не забывай ніколі і пазірай на маю фотакартку. 12.XII.1935, г. Магілёў, н/д, каля ваеннага сцягу».*

*...Дзевяць дзяцей было ў бацькоў Вольгі Мартынаўны – Мартына і Ефрасінні Камындаў. Шасцёра іх сыноў пайшлі на вайну. Вярнуліся ж з яе толькі двое – Парфён і Аляксандр. А вось астатнія чацвёра, як сведчыць раённая кніга «Памяць», загінулі: 32-гадовы Даніла за чатыры дні да заканчэння вайны – 5 мая 1945 года ў Германіі, 44-гадовы Іван – у г. Канатопе; прапалі без вестак: 44-гадовы Дзям'ян у жніўні 1944-га, а 38-гадовы Іосіф – у кастрычніку 1944-га. Аднаго з іх вы таксама бачыце на здымку – брата Вольгі Мартынаўны.*

*Многія матэрыялы пра загінулых і ацалелых не змагла ўмясціць раённая кніга «Памяць», бо іх было сабрана багата.*

*Вечная памяць загінулым, дачасна памерлым за наш светлы і мірны сённяшні дзень.*

*Успомнім усіх паіменна!*





## Члены Клімавіцкага камсамольска-маладзёжнага падполля

*Падпольшчыкі вёскі Круглае*

Белаштэнтаў Ягор Іванавіч (загінуў на фронце)
Гайдукоў Ніканор Ісакавіч (памёр)
Гайдукоў Павел Ніканоравіч (загінуў)
Канаплёва Марфа Данілаўна (памерла)
Капаеў Андрэй Сямёнавіч
Капаева Клаўдзія Сямёнаўна
Траццякоў Аргенцін Лукіч (памёр)
Чаркасаў Дзмітрый Карпавіч (загінуў партызанам)
Чаркасава Еўдакія Карпаўна (памерла)
Чаркасаў Іван Карпавіч (загінуў партызанам)
Чаркасава Марыя Карпаўна (памерла)
Чаркасава Паліна (Пелагея) Карпаўна (памерла)
Чаркасава Раіса Карпаўна
Чаркасаў Яўсей Данілавіч (замучаны ў гестапа)
Чаркасава Яфімія Хрыстафораўна (замучана ў гестапа)
Яйцова Ганна Міхайлаўна (загінула)
Якубенка Іван Маркавіч

*Падпольшчыкі горада Клімавічы*

Ананьеў Клімент Пятровіч (загінуў)
Асмалоўская Лідзія Пятроўна
Белавусаў Сяргей Іванавіч (загінуў)
Блыхін Усевалад Іванавіч
Блыхіна Аляксандра Яўсееўна
Блыхіна Анастасся Яўсееўна (вывезена ў Германію)
Галемскі Васіль Дзмітрыевіч (загінуў)
Гардзіевіч Артур Антонавіч (загінуў)
Даніленка Віктар Сцяпанавіч (загінуў партызанам)
Каркачоў Дзмітрый Пятровіч
Курэпіна Яўгенія Іосіфаўна (загінула)
Лепятухіна Марыя Фёдараўна
Лукашэвіч Леанід Іванавіч (загінуў)
Лычагін Леанід (загінуў)
Мікалаева Таццяна Гаўрылаўна (памерла)
Нікалаева Галіна Міхайлаўна (памерла)
Пыцько Ніна Сяргееўна (вывезена ў Германію)
Рабкова Зоя Іванаўна
Раханскі Леанід Дзмітрыевіч (памёр)
Руткоўская Ірына (загінула)
Сталяроў Міхаіл Ігнатавіч (памёр)
Травінскі Юрый Міхайлавіч (загінуў)
Чмыхаў Аляксандр (вывезены ў Германію)
Чмыхава Вера (вывезена ў Германію)
Яфімава Марфа Цітаўна (загінула партызанам)

*Родныя падпольшчыкаў*

Маці Блыхіной Анастассі Яўсееўны (загінула)
Бацька Блыхіной Анастассі Яўсееўны (спалены ў фашысцкай турме)
Сястра Блыхіной Анастассі Яўсееўны (спалена ў фашысцкай турме)
Цешча Гардзіевіча Артура Антонавіча – Смотрына Е.А. (загінула)
Маці Руханскага Леаніда Нікіфаравіча (загінула)
Маці Курэпінай Яўгеніі Іосіфаўны (вывезена ў Германію)
Бацька Курэпінай Яўгеніі Іосіфаўны (вывезены ў Германію)
Брат Курэпінай Яўгеніі Іосіфаўны – Барыс (вывезены ў Германію)
Сястра Курэпінай Яўгеніі Іосіфаўны (вывезена ў Германію)
Маці Руткоўскай Ірыны (загінула)
Цётка Чаркасавых – Канаплёва Марфа Данілаўна (вывезена ў Германію)

*Паводле звестак Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Клімавіцкага раённага краязнаўчага музея і сведчанняў саміх падпольшчыкаў*

*Аўтар просіць адгукнуцца членаў падполля, а таксама іх блізкіх і сваякоў. У сувязі з падрыхтоўкай кнігі аб Клімавіцкім камсамольска-маладзёжным падполлі, просьба даслаць свае ўспаміны аб вайне, фотаздымкі, лісты з фронту, дзённікавыя запісы. Пісаць на адрас: 213633 Магілёўская вобласць, г. Клімавічы, вул. Камуністычная, 17/12. Тэлефон 8-02244-5-34-37.*

P.S. *Гэтаксама маецца просьба і да тых, хто ведае пра далейшы пасляваенны лёс падпольшчыкаў, паведаміць пра гэта мне, аўтару.*

*Іван ЛАПО,*
*журналіст, краязнаўца, г. Клімавічы*






# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–16)*

Першай забіла трывогу паліцыя Віленшчыны. Яе павятовы спраўнік паслаў «Жалейку», а таксама творы Ф. Багушэвіча ў Віленскі камітэт па справах друку, адтуль крамольную літаратуру адаслалі ў Пецярбург з просьбай «почтить уведомлением, могут ли они (кнігі) быть допущены к обращению». Пецярбургскі камітэт па справа друку адрасаваў «Жалейку» (а яна выйшла накладам 4 300 экз.) пракурору сталічнай судовай палаты з характарыстыкай, што Янка Купала «сравнивая жизнь крестьянина с тем, как живут помещики, чиновники и другие, резко нападает на современный несправедливый, по его мнению, порядок вещей...» Некалькі вершаў чыноўнікі прызнавалі «особенно преступными», таму камітэт «имел честь покорнейше просить возбудить судебное преследование против автора брошюры Янки Купалы, а равно и против других лиц, могущих оказаться виновными по тому же делу». Праўда, судовая палата ўстрымалася накладаць арышт на «Жалейку».

Водгукі ў прэсе на публікацыі Я. Куплы былі розныя. Так, газета «Минское слово» 4 красавіка 1908 года не абыйшла ўвагай вершы Я. Купалы, надрукаваныя ў брашуры І. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства», але ўвага гэтая была вельмі раздражнёная: маўляў, гэтыя творы напоўненыя «самой бесшабашной ложью и неизбежными призывами к бунту». Як бачым, самі газетчыкі напісалі па-нахабнаму ілжыва. Ды яшчэ з даносам.

Нападкі і абразы не толькі ягонай паэзіі, але і ўсёй беларускай літаратуры змушаюць Я. Купалу даць гнеўны адказ непрыяцелям, і ён 6 чэрвеня ў «Нашай Ніве» змяшчае верш «Ворагам Беларусчыны», дзе, адкінуўшы сваю шляхецка-дваранскую ўраўнаважанасць, рашуча заступаецца за беларускую мову, за чалавеча-нацыянальную годнасць роднага народа і выкрывае непрыстойнасць апанентаў, якія ў спрэчках спасылаюцца не на доказы і логіку, а найперш на хлусню і знявагі. Верш літаральна выбухнуў магутнай грамадзянскай, паэтычнай сілай і моцаю, глыбокім сцверджаннем старажытнай гісторыі Беларусі, вялікай крыўдай за сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, за вынішчэнне яе душы. Пасля гэтай публікацыі некаторыя зласліўцы мусілі прыціхнуць, а некаторыя – наадварот, яшчэ болей уз'юшыліся на беларускасць. У гэтым працэсе годна павялі сябе супрацоўнікі газеты «Минский курьер»: яны змясцілі ў перакладзе Купалаў верш «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні», такім чынам паклаўшы пачатак перакладаў твора паэта на рускую мову.

За 9 ліпеня 1908-га ў газеце «Минское эхо» з'яўляецца, мабыць, першая рэцэнзія на зборнік паэзіі Я. Купалы «Жалейка». Яе аўтарам быў адзін з яго настаўнікаў, Ядвігін Ш. На вялікі жаль, старэйшы калега па творчасці чамусьці халаднавата сустрэў дэбютную кнігу. Можа, і з-за звычайнай чалавечай рэўнасці. Наўрад ці варта было пісаць менавіта вось так: «"Лучше быть первым в деревне, чем вторым в Риме"... вот первое, навязывающееся, впечатление при чтении новоиспеченного довольно объемистого (152 стр.) томика белорусских стихотворений Янки Купалы под общим заглавием "Жалейка"».

# Сцежкамі класікаў

***З многімі людзьмі Дзяржыншчыны (Койданаўшчыны) Я. Купала і Я. Колас мелі сяброўскія адносіны, шмат нашых землякоў прысвяцілі ім свае мастацкія творы і навуковыя працы.***

Як вядома, за арганізацыю нелегальнага з'езда настаўнікаў у Мікалаеўшчыне ў 1906 годзе Я. Колас царскім урадам быў пакараны турэмным зняволеннем тэрмінам на 3 гады. Пакаранне ён адбываў з 1908 па 1911 год у мінскай турме, ці, як яе называлі тады, «Пішчалаўскім замку» (зараз – «Валадарка»). У той жа час у гэтай турме знаходзіўся за рэвалюцыйную дзейнасць наш зямляк, Карусь Каганец (сапр. Кастравіцкі). За турэмнымі кратамі К. Каганец часам гутарыў з Я. Коласам, шмат пісаў, маляваў, аформіў вокладку яго кнігі «Другое чытанне для дзяцей беларусаў».

Бацька К. Каганца, Карл Кастравіцкі, валодаў маёнткам Навасёлкі на Койданаўшчыне. За ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў быў высланы ў сібірскі горад Табольск, дзе Карусь і нарадзіўся. Пасля вяртання на радзіму сям'я Кастравіцкіх жыла ў Засуллі (цяпер Стаўбцоўскі раён), а з 1880 года – у в. Юцкі на Койданаўшчыне. Пахаваны К. Каганец у в. Вялікія Навасёлкі Дзяржынскага раёна.

Упершыню Я. Купала і Я. Колас сустрэліся ў 1912 годзе. Летам таго года па дарозе з Акопаў у Мікалаеўшчыну, да Я. Коласа, Янка Купала спыняўся ў былым фальварку Карукі на той час Койданаўскай воласці. Тут ён напісаў свой верш «Мая малітва» («Ва ўсяку мінуту, ва ўсякай патрэбе»).

Беларуская пісьменніца З. Бандарына жыла ў Койданаве і працавала ў 1925–1927 гады загадчыцай дзіцячага садка.

На Беларусі добра вядома імя Крыловіча – выдатнага акцёра, аднаго з заснавальнікаў беларускага тэатра, ураджэнца в. Крыловічы. Наш зямляк сябраваў з Я. Купалам. Паэт захапляўся яго вобразамі Машэкі і Каліноўскага ў аднайменных п'есах Е. Міровіча. У. Крыловіч выдатна выконваў ролю Сцяпана Крыніцкага ў спектаклі «Паўлінка».

Песняроў добра ведаў і ўраджэнец г. Дзяржынска (Койданава), літаратуразнаўца, драматург В. Вольскі. З Я. Купалам ён пазнаёміўся ў верасні 1928 года на праглядзе фільма «Песня вясны». В. Вольскі – аўтар шматлікіх артыкулаў пра Я. Купалу: «Матэрыялы да біяграфіі Янкі Купалы (1882–1910)», «Янка Купала ў дні Вялікай Айчыннай вайны» і інш.

Сябраваў з Купалам і С. Шушкевіч – вядомы беларускі пісьменнік, ураджэнец в. Бакінава. Пазнаёміліся яны ў 1925-м у мінскім Доме прафсаюзаў, дзе Станіслаў Пятровіч вітаў паэта з 20-годдзем літаратурнай дзейнасці. У кастрычніку 1935 года С. Шушкевіч пабываў у гасцях у Я. Купалы на яго дачы ў Ляўках. Прысвяціў ён Я. Купалу шэраг сваіх вершаў: «Касец», «У Ляўках» і інш. У 1920-х гадах С. Шушкевіч вучыўся ў Мінскім педтэхнікуме, дзе выкладаў Я. Колас. Як і шматлікія дзеячы беларускай творчай інтэлігенцыі, С. Шушкевіч быў рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1975-м.

Добра знаёмы з Я. Купалам быў і А. Сак, які ў 1917–1929 гадах служыў ксяндзом у Мінску, Койданаве і Мазыры. Пісаў А. Сак на беларускай мове вершы, байкі, драматычныя вершаваныя творы. Паэт падараваў А. Саку сваю кнігу з аўтографам.

У 1920–1930 гады станцыя Негарэлае на Койданаўшчыне была памежнай. Тут рабілі прыпынак вядомыя людзі: У. Маякоўскі, А. Талстой, В. Чкалаў, Г. Уэлс і інш. У 1939 годзе пісьменнік М. Горкі вяртаўся з Сарэнта (Італія). На гэтай станцыі яго сустракалі Я. Купала, Ц. Гартны, А. Александровіч і праводзілі ў вагоне да Мінска.

Нельга не ўспомніць і ўраджэнца в. Кукшавічы, доктара філалагічных навук, прафесара В. Івашына. Адзін з накірункаў яго навуковых даследаванняў – купалазнаўства. В. Івашын – аўтар манаграфіі «Янка Купала. Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905–1907 гадоў», а таксама шматлікіх артыкулаў, прысвечаных паэту.

Розным аспектам жыцця і творчасці Я. Купалы прысвяціў шмат артыкулаў і вядомы наш гісторык, літаратуразнавец М. Ермаловіч, ураджэнец в. Малыя Навасёлкі.

З Я. Купалам быў знаёмы жывапісец, ураджэнец г. Дзяржынска А. Кроль. У 1949 годзе ён стварыў цыкл пейзажаў Вязынкі: «Хата, дзе нарадзіўся Я. Купала», «Восень», «Сосны» і інш.

Мастак, прафесар У. Савіч нарадзіўся на Лагойшчыне, але жыў і вучыўся ў СШ № 2 г. Дзяржынска. Паводле твораў Я. Купалы У. Савіч стварыў серыю акварэлей: «Голас Купалы», «Памёр пясняр...» і інш. Ён таксама сааўтар трыпціха «Маладая Беларусь» (1979).

Мастак А. Александровіч – удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных выставак, праілюстраваў больш за 50 кніг Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы і многіх замежных аўтараў. Ён нарадзіўся ў г. Дзяржынску.

Канечне, гэта не поўны пералік вядомых людзей Дзяржыншчыны, чые лёс і творчасць звязаны з класікамі нацыянальнай літаратуры.

Цэнтральная раённая бібліятэка сёлета плануе правесці цыкл мерапрыемстваў пад агульнай назвай «Валадары беларускай паэзіі», злёт маладых паэтаў «Слова Купалы да творчасці кліча», будзе арганізавана і сустрэча з вядомымі пісьменнікамі Беларусі.

*Лявон ЦЕЛЕШ,*
*г. Дзяржынск*



*Ліпы ў Смольні, пасаджаныя Я. Коласам у 1911 г.*

***Яўген МІКЛАШЭЎСКІ***

# Пасланне з XXI стагоддзя

*Узгадаваных пад прымусам,*
*Каго з іх зараз паўшчуваць?*
*Чаму ўсё роўна беларусам,*
*Што роднай мовы не чуваць?*
*На мове блізкага народа*
*Яны ўжо звыклі размаўляць,*
*І гэта звычка – перашкода*
*СВАЁ заўсёды шанаваць.*
*А продкі, што стварылі мову,*
*Стварылі звычаі свае,*
*І захаваць іх – як аснову –*
*Нам талерантнасць не дае.*

*Нашто яшчэ якоюсь мовай*
*Галовы дзецям забіваць?*
*Тады ўжо лепш іх прымусова*
*Замежным мовам навучаць.*
*Хай размаўляюць лепш на польскай,*
*Англійскай ці якой другой –*
*Хоць на кітайскай ці мангольскай,*
*І гэта лепш, чым на сваёй.*

*На ёй не створана нічога,*
*Чаго на іншых не было б.*
*Мы будзем жыць па волі Бога:*
*Нас уратуюць ксёндз ці поп.*
*Паўночным захадам Расіі*
*Мы станем зноў, як і былі.*
*У нас няма свайго Месіі,*
*Ды ёсць цары і каралі.*

*Няхай сабе яны чужыя –*
*Мы ўзгадаваны на чужым:*
*Па звычцы ў нас сагнецца шыя –*
*І мы за імі пабяжым.*

*Навошта нам свая дзяржава?*
*Мы не прывыклі кіраваць.*
*Дзяржавы злева ёсць і справа –*
*Не трэба доўга выбіраць.*
*І, пагарджаным, занядбаным,*
*Не трэба звацца нам людзьмі.*
*І ўсё, што трэба расіянам,*
*Мы будзем бараніць грудзьмі.*

*Мы ўсім падзелімся па-брацку –*
*І абароняць нас яны,*
*Як злыдні нападуць знянацку*
*Ці з той, ці з гэтай стараны.*

*Так разважаюць беларусы.*
*Што зробіш тут – менталітэт.*
*Руды, смуглявы, чорны, русы –*
*Нам падыходзіць цэлы свет.*

*Наш край – усходні і заходні,*
*Ды найбліжэйшы нам усход.*
*І ў Магілёве, і ў Гародні*
*Адзін і той жа ў нас народ.*
*Глабалізацыя надыдзе –*
*Нам будзе па дарозе з ёй.*
*І ў Палестыне, і ў Таўрыдзе –*
*У нас зямляк усюды свой.*

*Нашчадкі, праўнукі, прабачце,*
*Прабачце, нашы продкі, нам!*
*Па звычаях сваіх не плачце –*
*Нам не патрэбны родны Храм!*

*У нас ва ўсіх адна дарога –*
*Камусьці трэба пачынаць:*
*Усё, што на зямлі ад Бога,*
*Нам неабходна аб'яднаць.*
*Не звадыяшы мы, не хлусы,*
*Мы... да дзяржавы не дайшлі*
*І ў Беларусі, беларусы,*
*Мы тытул свой не зберaглі.*

***

*Такое вось пасланне гэта.*
*Але каму даваць адказ?*
*У змроку і імя паэта,*
*Што напісаў свой ліст да нас, –*
*Імя, якое і камета,*
*Мільгнуўшы іскраю зрэдчас,*
*У вечным змроку не азорыць*
*І адкрыццё нам не падорыць.*

*2003*

# Прыкметы лёсавызначэння Якуба Коласа

***Перспектыва вылоньвання з сялянскага асяроддзя творчай асобы, чалавека высокай нацыянальнай свядомасці, а болей канкрэтна – перспектыва з'яўлення Якуба Коласа, была канчаткова вызначана грамадскай актыўнасцю і грамадзянскімі ўчынкамі мікалаеўцаў. На пачатку 70-х гадоў XIX стагоддзя сяляне вёскі Мікалаеўшчына наважыліся ўзвесці будынак народнага вучылішча і, спадзеючыся калі не на падтрымку, то хоць бы на паблажлівасць улад, пайшлі на тое, каб без адпаведнага дазволу нарыхтаваць будаўнічы матэрыял у лесе князя Радзівіла. Парубка каштавала ім доўгай судовай цеганіны і выраку аб выплаце штрафу памерам 5 774 рублі 15 капеек, які нават пачалі спаганяць з 65 чалавек. Аднак у сакавіку 1879 г. мікалаеўцы ўсё ж такі дамагліся, каб сенат прызнаў няправільным рашэнне Мінскай палаты крымінальнага і цывільнага суда.***

У мікалаеўскіх сялян, як сведчаць дакументы, былі свае зычліўцы і заступнікі. Прыстаў 3-га стану Мінскага павета С.М. Фёдараў хадайнічаў перад начальнікам губерні наконт растэрміноўкі выплаты прысуджанага доўгу «на магчыма большы лік гадоў», а міравы пасрэднік А. Пестаў у лютым 1877 г. звярнуўся да паверанага князёў Радзівілаў у атрыманні выкупных пазык за маёнткі Л.Ю. Неслухоўскага з лістом, у якім, спасылаючыся на «асаблівы давер яго сіяцельства» да адрасата, прасіў «прызнаць магчымым аказаць дапамогу ў пабудове Мікалаеўскага народнага вучылішча выклапатаннем з лясоў Радзівілаў неабходнага для гэтага матэрыялу...»[1]

Люцыян Юр'евіч Неслухоўскі – гэта бацька Янкі Лучыны, беларускага паэта, які тады вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце і ў друку з вершамі яшчэ не выступаў. Цікава, як на просьбу Пестава Неслухоўскі адгукнуўся, бо хадайнічаць за мікалаеўцаў перад князем, у якога ты паверамы ды яшчэ арандуеш фальварак[2], было не зусім з рукі. Між тым мікалаеўскія сяляне ад штрафу за парубку ўрэшце былі вызвалены, але нарыхтаваны ў радзівілаўскім лесе матэрыял на будынак народнага вучылішча яны, здаецца, не выкарысталі. Школьныя заняткі па-ранейшаму праводзіліся ў звычайнай сялянскай хаце. Аднак жаданне мікалаеўцаў мець штосьці лепшае было такое моцнае, што згуртавала іх дзеля грамадскага інтарэсу і, калі годна вывела з судовага выпрабавання, шчодра кампенсавала з часам выдатнымі выпускнікамі народнага вучылішча, найперш Канстанцінам Міцкевічам, будучым Якубам Коласам.

Грамадская патрэба мікалаеўцаў у асвеце была чымсьці большым, чым імкненне да адукацыі, з якою як быццам шырэй адчынялася вакно ў свет. Тут, несумненна, спрацоўваў калектыўны інстынкт самазахавання, які нёс з сабою гарантыю будучыні і неўсвядомленую амбіцыйную надзею на выхаванне свайго вялікага чалавека.

А ці не было далучэнне Люцыяна Неслухоўскага да справы мікалаеўскіх сялян як іх магчымага заступніка тым збегам акалічнасцей, які нагадвае папераджальную разведку лёсу? Бо праз нейкіх 13–15 гадоў у народным вучылішчы ў Мікалаеўшчыне на руках вучняў апынуўся адзін з вершаваных твораў сына Люцыяна Неслухоўскага Янкі Лучыны, напісаны па-беларуску. Пазней, у лютым 1913 г., Якуб Колас у лісце да расійскага літаратара С.А. Вянгерава ў сувязі з гэтым напісаў: «О белорусской литературе я ничего не знал. Слышал только белорусские песни, которые, сидя за прялкой, пела моя мать. Первое белорусское произведение, которое я услыхал, было стихотворение Янки Лучины (Неслуховского) "Стары ляснік". Оно произвело на меня сильное впечатление не своими литературными достоинствами, а тем, что оно было написано по-белорусски. Сравнительно низкие литературные достоинства его имели для меня ту хорошую сторону, что поселили во мне уверенность самому написать нечто подобное, нисколько не хуже написанного»[3].



*Іван Неслухоўскі (Янка Лучына)*



*Будынак былой Мікалаеўскай школы, у якой вучыўся Кастусь Міцкевіч (малюнак Юзафа Пучынскага)*



*Малюнак В. Шаранговіча з «Новай зямлі», выдадзенай на беларускай, рускай і польскай мовах*
*Кнігу яшчэ можна набыць у БФК (тэл. для даведак – 234-42-03 і 283-28-26)*

Пра тое ж самае ў чэрвені 1921 г. у лісце да Я.Ф. Карскага паэт распавёў больш сцісла: «Яшчэ да паступлення ў семінарыю пазнаёміўся я з беларускімі творамі Янкі Лучыны, якія пападаліся мне ў рукапісах. Я сам стаў прабаваць пісаць па-беларуску»[4].

У «Аўтабіяграфіі», напісанай з нагоды прысваення звання народнага паэта, Якуб Колас таксама закрануў гэтае пытанне. «Яшчэ ў пачатковай школе, – зазначыў ён, – выпадкам папалі да мяне ў рукапісу беларускія вершы, як потым я даведаўся, напісаныя Янкам Лучынаю. Гэтыя вершы я вывучыў напамяць і любіў іх дэкламаваць. Сярод маіх родных і знаёмых гэтыя вершы карысталіся вялікім поспехам ("Паночку, даражэнькі, дай пораху крышку, калі маеш увагу на старога Грышку")»[5].

Яшчэ раз пра сваё першае знаёмства з беларускім мастацкім словам пісьменнік згадаў у чэрвені 1927 г. у лісце да Л.М. Клейнбарта, калі пісаў наступнае: «В народной школе мне попалось в рукописи стихотворение на белорусском языке. Стихотворение было написано на бытовую тему, и мне оно очень понравилось, хоть очень и удивило, ибо все белорусское, начиная белорусским акцентом, в школе высмеивалось и изгонялось в лице учителя. Но нам, ученикам, было как-то особенно приятно слышать стихи на своем родном языке»[6].

Жыццёвыя абставіны складваліся для Канстанціна Міцкевіча такім чынам, што першы верш на беларускай мове, з якім ён пазнаёміўся і які выклікаў у яго думку пра магчымасць напісання падобнага твора, а па сутнасці абудзіў у ім нацыянальна-беларускага паэта, быў вершаваны аповед Янкі Лучыны «Стары ляснік», і адбылося гэта не раней чым у 1892 г. Менавіта тады пайшоў у школу будучы народны паэт Беларусі і тады ж выйшаў у Мінску альманах «Северо-Западный календарь на 1893 год», дзе разам з вершамі Уладзіслава Сыракомлі «Ямшчык», «Бусел», «Надта салодкія думкі», перакладзенымі Янкам Лучынам на беларускую мову, быў змешчаны «Стары ляснік» – беларускамоўны варыянт раздзела «Стары паляўнічы» з Лучынавай паэмы «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся», напісанай па-польску.

Рукапіс «Старога паляўнічага» Лучына дасылаў быламу мінчуку Аляксандру Валіцкаму ў Кракаў у 1882 г. З гэтага раздзела паэт распачаў у 1887 г. публікацыю «Паляўнічых акварэлек» у варшаўскім часопісе «Życie». Узнікненне беларускамоўнага варыянта «Старога паляўнічага» можна пазначыць пакуль межамі 1882–1892 гг. Якуб Колас чытаў «Старога лесніка» падчас вучобы ў школе, г.зн. не пазней за 1894 г., чытаў у рукапісе, які мог з'явіцца ў выніку перапісвання твора з «Северо-Западного календаря на 1893 год» або з нейкага яго спісу яшчэ да публікацыі, магчыма, да 1892 г. Гэта зусім верагодна, бо «Стары ляснік» прыкладна ў той жа час хадзіў у спісах на Случчыне і ў Мінску[7], а з Мархачоўшчыны, дзе Неслухоўскія арандавалі фальварак і куды Лучына часта наведваўся, было рукой падаць да Мікалаеўшчыны...

«Стары ляснік» Янкі Лучыны быў першым беларускамоўным творам, які, калі прыйшоў у падлеткавую свядомасць сына лесніка і ўразіў даступнасцю аповедна-эпічнага стылю, стаў адным з тых непрыкметна-уплывовых момантаў творчасці, які падвёў да напісання «Новай зямлі», нацыянальнай эпапеі пра жыццё лесніка, і да стварэння вобразаў-тыпаў, родных Лучынаваму старому лесніку Грышку сваёй чалавечай надзейнасцю і здольнасцю сцвярджаць сябе не за кошт іншых.

***Уладзімір МАРХЕЛЬ***

---

[1] З жыццяпісу Якуба Коласа. Дакументы і матэрыялы / Уклад. Г.В. Кісялёў. Мн., 1982. С. 28–29.

[2] З 1863 г. Неслухоўскія арандавалі ў Радзівілаў фальварак у Мархачоўшчыне, што на другім баку Нёмана за шэсць кіламетраў ад Альбуці.

[3] Колас Якуб. Зб. тв. У 14 т. Пісьмы 1908–1949 гг. Мн., 1977. Т.13. С. 22.

[4] Тамсама. С. 29.

[5] Якуб Колас. Да 80-годдзя з дня нараджэння: Бібліягр. даведнік / Склалі Н.Б. Ватацы, М. Пратасевіч і М. Базарэвіч. Мн., 1962. С. 9.

[6] Колас Якуб. С. 75

[7] Запартыка Г., Янушкевіч Я. Яшчэ адна загадка XIX ст. // ЛіМ. 1997. 26 вер.

***(Працяг. Пачатак у №№ 3–16)***

Гэты твор быў надрукаваны ў «Нашай Ніве» 24 лютага 1907 г. Інспектар па справах друку даносіў пракурору Віленскай судовай палаты: «... верш накшталт змешчанага на стар. 3 пад загалоўкам «Расейскіе образы» здольны... моцна ўзрушыць простага малаінтэлігентнага чытача беларускай газеты і ўнушыць яму непавагу да суда, паліцыі, земскага начальніка, памешчыка, войска і законаў дзяржавы і зрабіць яго лёгкай ахвяраю злачыннай прапаганды». Зразумела, маючы на руках гэты данос, паслужлівы пракурор не мог не паціраць рукі ад задавальнення, што мае спрыяльную магчымасць пацвердзіць сваю адданасць імперыі. А Я. Колас, не адступаючы ад свайго, наносіць новы ўдар паэтычным словам па чэрствых землеўладальніках і царскіх чыноўніках, хабарніках і прыстасаванцах у вершы «Ворагам» (ён, зразумела, зможа пабачыць свет толькі ў 1920-я):

*Багачы і панства,*
*Нашы «дабрадзеі»!*
*Мы на суд вас клічам,*
*Каты вы, зладзеі!*
*...*
*«Чыімі рукамі*
*Вы дабро збіралі?*
*На чые вы слёзы*
*Дабрабыт куплялі?»*
*...*
*Ўжо даўно вяроўкі*
*Вас, паны, чакаюць,*
*І па вас асіны*
*Слёзы праліваюць.*

Гэтыя радкі, як і іншыя з названага верша, даюць падставу меркаваць, што паэт не проста абвінавачваў асобны атлусцелы, глухі да народных пакут люд, але вынес і суровы прысуд усяму царскаму рэжыму, прадбачачы, што яго чакае нялёгкі лёс. Ідэалагічны націск, фізічнае насілле пэўны час даюць магчымасць утрымацца ва ўладзе, але ненадоўга. Тым больш, што паэт ясна разгадаў царскія манеўры з тагачаснай Дзяржаўнай Думай, якая нібыта была прыкліканая ажыццяўляць народныя запатрабаванні, але якая за сумленны і смелы голас некаторых дэпутатаў магла быць распушчаная ў любы час. У паўфельетонным вершы «Мікалаю II» (напісаны ў пакутлівым 1907-м, апублікаваны ў 1928-м) Я. Колас на поўную моц даў і сілу сатыры, якой валодаў паспяхова:

*Дзесяць год Мікола думаў*
*І прыдумаў ён Думу.*
*Пасадзілі разам з панам*
*Янку, Грыца і Кузьму.*

*Пасядзелі тыдняў восем,*
*Узлаваўся Мікалай –*
*Дэпутатам даў па карку,*
*Ўзяў ды Думу разагнаў.*

*Да чаго ж мы дажыліся!*
*Эх, падвёў ты нас, царок!*
*Каб табе даў бог на старасць*
*Лапці, торбу і кіёк.*

Ці ўзяць верш «Канстытуцыя» за 1908 г.:

*Канстытуцыю далі,*
*Адчынілі дзверы,*
*І... ў астрог нас павялі,*
*І таўкуць без меры.*
*...*
*Колькі ўсякіх строгіх мер –*
*Канца няма, краю!*
*Канстытуцыю цяпер,*
*Як пяць пальцаў, знаем.*

***Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ***









# Бунты XIX стагоддзя:

## 1842–1843, 1847, 1857 гады...

*Для Кажан-Гарадоцкай парафіі, дзе дажываў свой век уніяцкі прэсвітэр Рыгор Шэмеціла, 3 красавіка 1822 года быў рукапалажаны новы святар – былы выхаванец Слуцкага духоўнага вучылішча Андрэй Фелікс Іванаў Сушчынскі. Але айцец Рыгор не думаў уступаць сваё месца Сушчынскаму, і апошняму давялося шукаць службу ў Ровенскім павеце на Валыні.*

У 1830 годзе памірае айцец Рыгор Шэмеціла і вакантную пасаду заняў яго сын Іван. Згодна з «Рэвізскаю сказкаю», 8 мая 1834 года настаяцелем у Кажан-Гарадку быў яшчэ уніяцкі прэсвітэр Іван Шэмеціла. Але ў 1836 годзе парафію ўзначальвае ўжо айцец Андрэй Фелікс Сушчынскі, які не хавае сваіх сімпатый да праваслаўя: у царкоўнай дакументацыі ён пазбягае ўжываць слова «унія» дзе толькі можа.

У 1839 годзе на Полацкім саборы было прынята рашэнне аб ліквідацыі Берасцейскай царкоўнай уніі. І ў такіх людзей, як уніяцкі святар Іван Шэмеціла, выбару не засталося: або пераходзь у праваслаўе, або заставайся без парафіі. Апошні варыянт «выбару» азначаў пазбаўленне сродкаў для існавання сям'і і непазбежны пераход у прыгоннае сялянскае саслоўе.

Сушчынскі выгнаў сям'ю Шэмеціллы яшчэ да сумна вядомага ва уніяцкім асяроддзі Полацкага сабора. Ужо ў 1836 годзе, згодна з «Ведамасцю царквы», ніхто з папярэднікаў Сушчынскага ў Кажан-Гарадку не пражываў. Куды падзелася сям'я айца Івана Шэмецілы – невядома. Зразумела, што па сваёй волі Шэмецілы адсюль не выехалі б: тут былі святарамі і бацька, і дзед айца Івана – Якаў Шэмеціла.

Расправіўшыся з Шэмецілямі, айцец Андрэй Фелікс прыкладае ўсе намаганні, каб перавесці Кажан-Гарадоцкую парафію ў праваслаўе. Не хавае ён і крайне варожыя антысеміцкія погляды. У хуткім часе ў «Спавядальных роспісах» насупраць прозвішчаў некаторых парафіян з'яўляюцца зробленыя рукою святара заўвагі: «Николай Иванович Козярский... нанимался еврею в 16 дне месяца июля возить дрова двомя возы...

Иван Решецкий... 1839 г. июля 6 дня нанимался еврею возить двома возами дров и 3 раза завёз». Нават такі пошук заробку бацюшка лічыў грахом!

Празмернымі «клопатамі» айца Андрэя скоўвалася ўсякая прадпрымальніцкая ініцыятыва, так неабходная для капіталізацыі гаспадарання на вёсцы!

Настаў 1842 год. Клопатамі айца Андрэя Сушчынскага парафіяне былі пераведзены ў праваслаўе, што выклікала іх абурэнне і «бунт» 1842–1848 гадоў. «Бунт» уяўляў сабою шэраг антыправаслаўных выступленняў жыхароў Кажан-Гарадка і Дрэбска.

Як пазначана на старонках спавядальных роспісаў, 10 лютага 1842 года, у аўторак, чатыры «зачыншчыкі» – Апанас Каратыш, Мірон Якубовіч, Патрук і Міхаль Рашэцкія – «бунт напротив братчикам и священника зделали»: арганізавалі выступленне супраць праваслаўнага святара з мэтаю вярнуць уніяцтва для свае парафіі.

Бунты пракаціліся і ў Дрэбску: там узначаліў выступленне сялян Сяргей Марза.

Усіх кіраўнікоў, або зачыншчыкаў выступлення, было пяць чалавек, але самым галоўным арганізатарам айцец Андрэй называе Апанаса Каратыша.

У Кажан-Гарадку бунтавалі спачатку роўна месяц, пасля чаго Апанас Каратыш сабраў супраць праваслаўнага святара «громоду судить его 1842 года 9 марта месяца».

Сабраць грамаду без дазволу павятовай паліцыі – толькі гэта расцэньвалася як бунтарскае праяўленне! Але за бунтаўшчыкоў быў «войт мейсцкі», ён жа «кцітар царкоўны» Цімох Каратыш – асоба вельмі вядомая і аўтарытэтная сярод парафіян. Грамада, між іншым, выносіць прысуд: вярнуць у мястэчка сям'ю уніяцкага прэсвітэра, усім парафіянам вярнуцца ва уніяцкую веру, выгнаць праваслаўнага айца Андрэя Фелікса Сушчынскага. Найбольш рашуча настроеныя жанчыны пагадзіліся між сабою так: як не выганім праваслаўнага папа – спалім царкву!

Бунты працягваліся ўвесь 1842 год, а ў снежні Апанас Каратыш, Мірон Якубовіч і Сяргей Марза былі пакараны па прысудзе дваровага ўпраўлення памешчыка Шчыта 20 ударамі розгаў... Рашэцкія Міхаль і Патрук пакараны розгамі не былі: верагодна, іх выратавала шляхецкае прозвішча. А шляхту (дваран) не дазвалялася караць розгамі.

Бунты працягваліся і ў пачатку 1843 года. Улады зноў пускаюць у ход розгі. «Апанас Каратыш... першы зачыншчык супраць свайго пастыра, а студзеня 10 1843 года цераз дваровае ўпраўленне пакараны быў 20 ударамі розгаў і запісаны ў чорную кнігу ўправіцелем Савіцкім».

Нарэшце, 16 студзеня 1843 года Апанаса Каратыша яшчэ раз караюць розгамі і на гэтым паметкі аб бунце на старонках «Спавядальных роспісаў» абрываюцца.

Але уніяцтва не здавала сваіх пазіцый: уніяцкія традыцыі захоўваліся ў побыце, звычаях, многіх абрадах палешукоў. У Кажан-Гарадку хрэсны ход у Велікодную ноч праводзілі згодна не з праваслаўнай, а уніяцкай традыцыяй: мяшчане, што ішлі «ў галаве» працэсіі, вялі за сабою хрэсны ход «як сонца ходзіць» – у напрамку, прынятым уніятамі. Тады айцец Андрэй, не змогшы ўгаворамі пераламаць уніяцкі звычай, выклікаў казакоў. Настаў Вялікдзень – найвялікшае хрысціянскае свята. Як толькі хрэсны ход выйшаў з прытвора і павярнуў управа, казакі сустрэлі працэсію бізунамі-нагайкамі. Куды падзецца? Спераду сякуць казакі, ззаду напірае працэсія – і «галава» хрэснага ходу павярнула ўлева. Хрэсны ход упершыню пайшоў «в истинно православном направлении». З таго крывавага Вялікадня і пачалося на парафіі «торжество православия». Праўда, казацкімі нагайкамі былі высечаны не толькі «ерэтыкі»-уніяты, але і «стукачы» бацюшкі, і ні ў чым не вінаватыя вернікі.


1842-го февраля 10 дня во вторникъ Апанасъ Коротышъ зачинщикъ, 2-й Миронъ Якубовичъ, 3-й Петръ Решецкий, 4-й Михаилъ Решецкий бунтъ напротивъ братчикамъ и священника зделали
1843 года генваря 10 дня Апанасъ Коротышъ за бунтъ через Дворовое управление въ Дворе былъ наказанъ 20-ти ударов розгами и записанъ въ черную книгу – которому онъ худаго поведения и подущения –

*Паметка ў «Спавядальных роспісах» Кажан-Гарадоцкай царквы аб «бунце» уніятаў*

Паводле сведчанняў старажылаў, бунты мелі ярка выражаны рэлігійны характар. І яшчэ: злева ў царкоўным прытворы пасля скасавання уніі з'явілася спецыялынае прыстасаванне ў выглядзе жалезнай дужкі, дзе прывязвалі найбольш упартых уніятаў, што адмаўляліся наведваць праваслаўнае набажэнства. «Слуп ганьбы» – нязменны атрыбут рыначных плошчаў сярэднявечча – знайшоў сабе «прапіску» ў Божым храме!

Калі звярнуцца да біяграфіі завадатараў бунту 1842–1843 гадоў, то можна бачыць, што яны – пераважна маладыя людзі, якія нарадзіліся ўжо ў часы гаспадарання на Палессі Расійскай імперыі.

Так, Апанас Фларыянавіч Каратыш з вул. Бірукоўкі, узначаліўшы бунт, меў усяго толькі 28 гадоў. Не на шмат старэйшым за яго быў Цімох Мікітавіч Каратыш (36 гадоў) – «войт мейскі», «кцітар царкоўны» – родзіч Апанаса. Дарэчы, войт Апанас вядомы яшчэ і тым, што яго подпіс двойчы (!) стаіць пад кантрактам на збудаванне царквы; ён жа ў 1810 годзе ахвяраваў на пабудову царквы аж дзве тысячы злотых – «каб з яго патомства не бралі рэкрута».

Другі завадатар бунтаўшчыкоў (Мірон Мікалаевіч Якубовіч з вул. Бірукоўкі) узначаліў бунт у 34-гадовым узросце.

Маладымі былі Пятро Рашэцкі (25 гадоў) і Міхаіл Ігнатавіч Рашэцкі (30 гадоў) – абодва з роду Гарбараў, вул. Зарэчная.

У справах царкоўных Гарбары былі парафіянамі, шчодрымі на ахвяраванні: бацька аднаго з бунтаўшчыкоў, «Ігнат Рашэцкі Гарбар даў злотых сто» для пакупкі царкоўнага звана 11 верасня 1820 года.

З прадвесцем «вясны народаў» можна параўнаць антыфеадальнае выступленне жыхароў Кажан-Гарадка, што адбылося ў 1847 годзе. «Вясна народаў» – гэта хваля магутных антыфеадальных і нацыянальна-вызваленчых выступленняў, што пракаціліся па краінах Еўропы ў пачатку 1848 года.

...У канцы 1840-х гадоў беларускія вёскі поўняцца чуткамі аб адмене прыгоннага права, аб антыфеадальных выступленнях украінцаў у Галіцыі. Бунтарскія настроі перадаліся і жыхарам Кажан-Гарадка, дзе зусім нядаўна (усяго чатыры гады таму) пракаціўся бунт іншага кшталту – антыправаслаўнае уніяцкае выступленне.

У 1847 годзе жыхары Кажан-Гарадка бунтуюць зноў: на гэты раз патрабуюць адмены для іх прыгоннага права! Наладзіць кантакт з бунтаўшчыкамі ўзяўся ўпраўляючы маёнткам Савіцкі. Сабраўшы сялян, ён уручыў ім паперы, якія быццам бы гарантавалі свабоду ад прыгону. На самой справе згаданыя дакументы не мелі юрыдычнай сілы. Сяляне, узрадаваўшыся «перамозе», спынілі бунт, а дакументы аб дараванні «волі» прыняў на захоўванне Павел Каратышэвіч (вядомы потым пад прозвішчам Каратыш, а яшчэ больш – пад мянушкаю «Місцюк»). Не разабраўшыся ў ілжывасці атрыманых ад упраўляючага маёнткам папераў, Каратышэвіч-Місцюк запэўніў сялян, што прыгоннае права для местачкоўцаў адменена, і сяляне, не падазраючы, што іх падманулі, разышліся.

У 1857 годзе мястэчка зноў скалыхнулі сялянскія хваляванні.

*Васіль ТУМІЛОВІЧ*





*Кажан-Гарадоцкія дэкарацыі да бунтаў XIX стагоддзя*





*...Не адно наша пакаленне, што вучылася па савецкіх падручніках, бадай, яшчэ і цяпер можа адказаць: такая з'ява адбылася 1 студзеня 1919 года, калі ў Смаленску на партыйным форуме было абвешчана пра ўтварэнне БССР. Тыя падручнікі найменш змяшчалі на сваіх старонках праўдзівасць і аб'ектыўнасць, а найбольш, сыходзячы з пазіцыі непагрэшнасці ідэй ленінскай партыі, па-свойму (часамі па-фальсіфікатарску) тлумачылі факты.*

# Першы легальны беларускі з'езд

Дык, сыходзячы на аснове Яго Вялікасці Факта, калі ж адбыўся першы легальны беларускі з'езд? Давайце спачатку хоць у думках апынемся ў лютым-сакавіку 1917 года на Беларусі – і ў сёння малавядомы і невытлумачальны, больш – свядома заблытаны для яе перыяд гісторыі. Тады доўжылася Першая сусветная вайна, са жніўня 1915-га супрацьстаянне велізарных германскай і расійскай армій пачало адбывацца і на нашай зямлі. Кайзераўцы (а іх было ці не 1,5 мільёна) акупавалі чвэрць Беларусі, фабрыкі і заводы разбуралі, абсталяванне і моладзь вывозілі ў Германію, спалілі ці разабралі на акопныя патрэбы больш за 140 тысяч будынкаў, у тым ліку шмат помнікаў гісторыі і культуры, рабавалі сялян. Царскія дывізіі Заходняга і Паўночнага франтоў (у іх было каля 2 мільёнаў) таксама не неслі дабрабыт: былі вывезеныя ўглыб імперыі прадпрыемствы і навучальныя ўстановы, сотні тысяч беларусаў апранулі вайсковую форму, яшчэ сотні тысяч мусілі гаротнічаць у бежанстве. Наш край на пачатку XX стагоддзя быў паблізу 90 працэнтаў сялянскі. Але ў 1915–1917 гадах не было каму абрабляць зямлю, сеяць і садзіць, таму дагледжвалася толькі чвэрць палёў, у выніку мелі крыху больш трэці збожжа з таго, што збіралі раней. Беларусь была даведзеная да галечы, асуджалася не толькі на адзічэнне, але і на паступовае выміранне.

Сакавік 1917 года. У прыфрантавым Мінску толькі вузкае кола цывільнай і ваеннай улад мела доступ да сакрэтнай інфармацыі спраў у Расійскай імперыі, але раптам у Мінску стала вядома: у Петраградзе «жаночы бунт» выліўся ў рэвалюцыю. Мікалай II загадаў падданых у сталіцы ўціхамірыць, а сам з'ехаў у Стаўку, у Магілёў. Карныя акцыі не ўдаліся; камандуючыя франтоў, у тым ліку і Заходняга, што быў у Мінску, падмогі не паабяцалі, царызм паў. Цывільныя ўлады ў Мінску заклікалі ўсіх да «спакою», да чакання таго, што скажуць новыя ўлады ў Петраградзе; ваенныя вышэйшыя чыны ўтойвалі праўду ад акопных і казармавых салдацкіх мас, якім таксама вайна абрыдла і якія цяпер, ва «ўсеагульную свабоду», маглі ці братацца з такімі ж, як і яны, бедалагамі з непрыяцельскага боку, кінуць зброю і рынуцца дамоў, ці пайсці ў наступ у адваротны бок.

Амаль адразу ў Мінску наносіцца ўдар па старым рэжыме: гурт люду ў адзенні рабочых і земскіх служачых раптоўна і смела, пад хіхіканне мінчукоў-разявакаў і нават ваенных патрулёў абяззбройвае ненавісных гарадавых, займае паліцэйскія ўчасткі, нават арыштоўвае губернатара. У лічаныя дні ўтвараецца і гучна заяўляе пра сябе як пра апірышча новай улады Мінскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Царская агентура была ашаломленая, затаілася; ваенная контрразведка, здаецца, пасцерагалася ўносіць свае карэктывы, нават бачачы асноўную небяспечную рэч: нечаканыя мінскія рэвалюцыйныя доблесці – «не проста творчасць працоўных мінскіх мас», а ўсё загадзя разважліва падрыхтаванае глыбока замаскаваным антыцарскім падполлем. Магчыма, ваенныя палічылі, што лепш перачакаць, не адцягваць увагу арміі на ўнутраныя падзеі; калі гэта так, то яны прайгралі як тактычна, так і стратэгічна, не прадчуўшы, якая хутка не ваенная, а прапагандыцка-агітацыйная моц абрынецца найперш на малаадукаваных салдат, былых рабочых і сялян, якія ў новых, «вольных», умовах могуць (найперш праз стварэнне салдацкіх камітэтаў – козыр бальшавікоў) выйсці з-пад падпарадкавання афіцэрам, генералам, камандаванню франтоў.

У сталінска-брэжнеўскі перыяд ацалелыя бальшавікі, удзельнікі тых і пазнейшых мінскіх падзей, афіцыйныя гісторыкі з захапленнем напішуць тысячы вялікіх і дробных прац, у якіх будуць услаўленыя «бальшавікі Беларусі» 1917 года (Фрунзе з Бішкека, Мяснікоў з Нахічэваня, прыбалты Ландар і Кнорын, Позерн з Ноўгарада і інш.). І, трэба сказаць, не без ісціны. Не столькі ў сталіцах, Петраградзе і Маскве, колькі менавіта ў Мінску з першых крокаў Лютаўскай рэвалюцыі стаўся моцны і ўсё больш рос бальшавіцкі ўплыў на ход падзей, што пазней, у карнілаўскі мяцеж, паўздзейнічае на тое, каб палкі і дывізіі з Заходняга фронту не рушылі на Петраград. Цывільны мінскі люд і ваенныя тады на свае вочы бачылі: сярод абаронцаў рэвалюцыі самы актыўны, здольны, дзейсны, абаяльны і дасціпны земскі служачы Міхайлаў, які стаў начальнікам міліцыі (яго права на гэтую пасаду пацвердзяць і пасланцы Часовага ўрада, Петраградскага Савета, якія прыехалі ў Мінск тлумачыць палітыку новых улад), адзін з арганізатараў Мінскага Савета і камітэта РСДРП у Мінску. Неўзабаве і па здольнасці, і па ўзрослым смаку да ўлады ён будзе мець тут яшчэ з паўтузін іншых новых пасад, а ўвосень, ад'язджаючы з Мінска, перадасць руль не менш прагавітаму да ўладарання на Беларусі Мяснікову.

Ніхто не ведаў: гэты шустры Міхайлаў – на самой справе «государственный преступник» Фрунзе, які яшчэ ў 1905-м адпрацоўваў розныя метады прапаганды і агітацыі сярод рабочых, быў членам Савета ў Іванава-Вазнясенску, а з баевікамі браў удзел у Снежаньскім паўстанні ў Маскве, за што прысуджаўся да пакарання смерцю, быў сасланы на вечнае пасяленне ў Сібір, адкуль уцёк, у 1916-м запыніўся вольнанаёмным артылерыйскай часці ў Івянцы, пасля перабраўся ў Мінск і стаў земскім служачым.

В. Кнорын, які быў сведкам і ўдзельнікам тых падзей, а пасля, у 1920–1922 гадах на пасадзе сакратара ЦК(б)Б, а ў 1922–1927-х у многіх выпадках спрыяў беларусізацыі, ва ўспамінах агаворваўся, што, у прыватнасці, першапачатковы Мінскі Савет быў створаны не зусім легітымна вузкім колам падпольшчыкаў (з 18 членаў выканкама не было ніводнага беларуса), дзейнічаў з пазіцыі не закона, а рэвалюцыйнай неабходнасці, але афіцыйныя гісторыкі пасля ягонай смерці пачалі яго папраўляць: бальшавікі дзейнічалі заўсёды і ўсюды законна і свята! Адпаведна, любілі цытаваць захапляльныя радкі з газеты «Правда» за 15 сакавіка 1917 года: «Переворот в Минске прошел быстро и безболезненно».

Ну, а што «шчырыя» і «свядомыя?» Напачатку варта нагадаць, што, паводле перапісу 1897 года, у Мінску з 80 тысяч насельнікаў беларусаў было каля 9 тысяч (у асноўным рабочыя і абслуга), па-другое, нямала вядомых беларусаў было на катарзе (А. Гарун, Я. Лёсік), у арміі (Я. Купала і Я. Колас), параскідана па расійскіх прасторах (Зм. Жылуновіч (Ц. Гартны), А. Чарвякоў, Б. Тарашкевіч), той-сёй застаўся ў акупаванай немцамі Вільні (браты Луцкевічы, В. Ластоўскі). У Мінску тады было толькі некалькі беларускіх культурна-асветных установ («Беларуская хатка», «Таварыства помачы ахвярам вайны» і інш.) са жменькай актывістаў (Ядвігін Ш., Зм. Бядуля, З. Верас, Ус. Фальскі, з 1916-га М. Багдановіч). Яны загадзя не навучаліся ў закрытых партыйных школах, не мелі навыкаў палітычнай барацьбы, канспірацыі і тайных крыніц сродкаў, а сціпла і адкрыта падтрымлівалі нацыянальнае цяпельца, як маглі, ратавалі ад галоднай смерці сірот і сталых людзей, што не мелі прытулку ці заробку. Бадай, беларускую справу і менавіта з прыцэлам не на акупаваную Вільню, а на Мінск актыўней пачалі вылучаць тыя нашы землякі, якія за час вайны апынуліся па неабсяжных прасторах велізарнай Расійскай імперыі, напоўніцу спазналі, што такое чужына, жыць без кала і двара, таму яны заклапочана затурбаваліся не толькі за сваю асабістую бяздомную долю, але і за лёс агульнага свайго Дома – Радзімы як такой. Іменна ў расійскіх гарадах (Петраград, Масква, Тамбоў, Саратаў, Адэса, дзе ў 1917-м народзіцца Янка Брыль, Талін, дзе пабачыць свет П. Панчанка, і інш.) яшчэ да Лютаўскай рэвалюцыі пачалі стварацца розныя зямляцкія суполкі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве нават будзе праведзены Усебеларускі з'езд бежанцаў, дзе будзе вылучана і пытанне нацыянальна-дзяржаўнага самаазначэння Беларусі. З расійскіх буйных цэнтраў, а таксама з арміі (Балтыйскі і Румынскі франты, Кранштадт і інш.) пасля Лютаўскай рэвалюцыі пайшлі ў Мінск моцныя беларускія хвалі. Тым больш, што Часовы ўрад расплывістатуманна выказаўся наконт нацыянальнага пытання – дазволіў частковае ўжыванне нацыянальных моў (у побыце), а што да самаазначэння народаў, то заклікаў змацаваць гэта «союзом сердец» (?).

Але і ў зрусіфікаваным, у многім апатычным Мінску знайшоўся чалавек, які быў дасведчаны ў пытаннях палітыкі, рэвалюцыянер – яшчэ малады (1891 г.н.), адукаваны (скончыў Нова-Аляксандраўскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства), партыец (з 1910 года член БСГ – Беларускай сацыялістычнай грамады, старшыня яе мінскага камітэта). Гэта быў будучы навуковец і грамадска-дзяржаўны дзеяч А. Смоліч. Вось суполка, якую ён узначальваў, і стала тым цэнтрам, куды прыходзілі тэлеграмы, тэлефонныя званкі, лісты, як казалася, з многіх расійскіх буйных цэнтраў: сябры, хопіць сну ці толькі хукаць на цяпельца, ёсць шанец як след падбаць пра Беларусь! Самім! Не чакаць на ласку дзядзькоў з Петраграда!

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

*(Заканчэнне будзе)*



*Эвакуацыя жыхароў беларускага мястэчка, да якога наблізіўся фронт*



*Рэвалюцыйная дэманстрацыя ў Полацку (1917 г.)*

УСТАВЪ

Бѣлорусскаго Общества по оказанію помощи пострадавшимъ отъ войны.

СТАТУТ

Беларускаго Таварыства па аказаньню помачы пацярпеушым ад вайны.

Типографія М. М. Кухты, въ Вильнѣ.
1915 г.

Пагалелым ад вайны Беларусам памажыця!

Вайна нарабіла страты і крыўды вялікай палавіне Беларусі. Ад Пінску да Дзьвінску ідуць акопы разоры на зямельца Беларускай. Асирось калятэных акопаў, абапал іх, стырчма стаяць разбітыя будынкі селянскія, або агнёмъ зьнішчаныя сёлы – вуглём ды попілам у вочы бйуцца ды сьлёзы наверх націскаюць. Гаспадары разбегліся па сьвету і тамъ адны у бядзе ды у нудзе на сьмерць нарваліся ды у чужую зямельку із касьцьмі, із целам на векі залеглі, а другія якнебудзь з жыцьцём баруюцца, алі шмат бяды зносюць, бо цяжэнька у цяперашнюю дарагоўлю жыць. І хтож ім паможыць? Своеж людцы найперш павінны ім памагчы.

Ось 24 і 25 чэрвіня (Іюня)

будзіць збор грошы і адзежы па усім Пітраградзе – давайця добрыя людцы скольні Ваша змога хто зборшчыкам, а хто проста у КАМІТЭТ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА для помачы пацярпеушым ад вайны на Знаменскай вуліцы у д. № 36, кв. 54 (тэлеф. 253 49) штодзень ад 11 да 9 гадзіны веч.

Проша шчыра дапамагчы бядзе пацярпеушым Беларусам!

За шчырую падмогу будзіць шчыры дзякуй.

*Лістоўка, выдадзеная Беларускім таварыствам у Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны (1916 г.)*



*Прыйшло Юр'е. Час на пашу*

*Фота Ігара ГРЭЧКІ*

### Адказы на загадкі, змешчаныя ў № 16

Арэх; грэчка; гарох; гарбуз; бурак; сланечнік; агурок; капуста; гарбуз; морква.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 16

**Уздоўж**

1. Вязынка. 3. «Беларусь». 5. Куточак. 7. Ода. 8. Панас. 9. Засек. 11. Музыка. 12. Вырай. 13. Алёнка. 17. Актэт. 19. «Месяц». 21. Атава. 23. Рыбак. 26. Афіцэр. 27. Свята. 30. Карова. 33. «Алеся». 34. Асада. 35. Кут. 36. Дажынкі. 37. Альбуць. 38. Крыніца.

**Уперак**

1. Варона. 2. Антось. 3. «Бярозка». 4. «Сосны». 5. Казка. 6. Каганец. 8. Пукст. 10. Колас. 11. Малітва. 14. «Адплата». 15. Атлас. 16. Хмары. 18. «Кат». 20. Яна. 21. Асінбуд. 22. Арэса. 24. Брама. 25. Кромань. 28. «Ваякі». 29. Трата. 31. Пеўнік. 32. «Касьба».

# Крыжаванка

**Уздоўж**

**1.** Вялікая пасудзіна для мыцця бялізны. **4.** Вёска на Лунінеччыне, дзе ў верасні 1942 г. паўсталі вязні яўрэйскага гета. **7.** Месца касьбы. **10.** Гераіня аднайменнага твору А. Платонава. **11.** Англійскі дваранін. **12.** Рака і паселішча на Лагойшчыне. **13.** Садовая расліна з аранжава-жоўтымі кветкамі. **14.** Некалі была прафесія: збіраць ... па вёсках і мястэчках. **16.** Легендарны мексіканскі гітарыст з «Blues band» Карлас ... **19.** Кармавая рэпа. **22.** Месца ў рацэ, дзе вада цячэ кругаля. **24.** Гарадок на поўдзень ад Брэста, у XVI ст. – каралеўская вёска. **25.** Рака на Віцебшчыне (раён Сянно). **26.** Твар на іконе. **28.** Адно з Браслаўскіх азёраў. **31.** Аліўкавае дрэва. **34.** Паласа зямлі на агародзе ці ў кветніку. **35.** Возера і паселішча пад Віцебскам. **37.** Рамуальд ... – правадыр паўстанцаў у Кобрынскім павеце (1863 г.). **39.** Вёска ў Іўеўскім раёне, вядомая з XV ст.; радзіма беларускага рэвалюцыянера Клінцэвіча. **40.** Назва крэпасці ў сярэдневяковай Хіве, Бухары. **41.** Як гучыць па-французску імя каралёў Людовікаў? **42.** Волатпаляўнічы ў грэчаскіх міфах; даў назву сузор'ю. **43.** Дынастыя італьянскіх майстроў музычных інструментаў (XVI–XVIII ст.). **44.** Бог дахрысціянскага пантэона ў беларусаў; свята ў яго гонар ладзілася штовесну.




**Уперак**

**1.** Савецкі акцёр і спявак імем Марк («Два байцы»). **2.** Прадстаўнік народа, што жыве ў Дагестане і Азербайджане. **3.** Адзін з сыноў Ноя (бібл.). **4.** Навука пра доказы і абвяржэнні. **5.** Вёска, вядомая з XVI ст.; цяпер – горад, райцэнтр на Гомельшчыне. **6.** Прыбор, механічная прылада. **7.** Захопленае ў марской вайне судна, іншая маёмасць. **8.** Атрута, якой жыхары Паўднёвай Амерыкі намазвалі стрэлы. **9.** Самая яркая зорка на небе, альфа Вялікага Пса. **17.** Заўзятасць, запал. **18.** Кавалак тканіны, якім засцілаюць стол. **20.** Паэт і педагог, ураджэнец Чашнікаў (1913–2004), пісаў на ідышы. **22.** У Айвазоўскага – дзевяты, у машынах – карданны. **23.** Жывёліна з клюшнямі. **27.** Пісьменніца, аўтарка рамана «Залатая жрыца Ашвінаў» і інш. **28.** Вялікае возера ў Крупскім раёне. **29.** Паселішча на Віцебшчыне; было блізкае і Яну Баршчэўскаму, і Пятру Машэраву. **30.** «..., або Прыезд пана» – опера Голанда, упершыню пастаўленая ў Нясвіжы (1784). **31.** Верш Генадзя Бураўкіна, пакладзены на музыку. **32.** Паўночнакаўказскі народ, саманазва – галгаі. **33.** Сталіца Казахстана. **36.** Прыкаспійская дзяржава – у старажытнасці звалася Персіяй. **38.** Кантынент, куды былі сасланы тысячы беларусаў.

*Склаў Вольф РУБІНЧЫК, г. Мінск*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯЧАСЛАЎ УЛАДЗІМІРАВІЧ** (1083–1155) – сын Уладзіміра Манамаха, князь тураўскі. Тураўскае княства атрымаў пасля 1125-га і валодаў ім на працягу 20 гадоў, праводзячы палітыку незалежнасці ад Кіева. У 1146-м далучыў да Турава Бярэсце, Рагачоў, Чартарыйск, што раней былі раздадзеныя кіеўскімі князямі сваім родзічам. За гэта яго пазбавілі княжання ў Тураве. У 1154 г. па пэўных меркаваннях адмовіўся вярнуцца ў Кіеў на пасад князя.

**ВЯЧАСЛАЎ ЯРАСЛАВІЧ** упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1127 г. як клецкі князь, калі разам з тураўскім, уладзімірскім і гарадзенскім князямі захапілі і разрабавалі Ізяслаў. Упамінанне яго як незалежнага клецкага князя сведчыла пра тое, што Тураўскае княства на той час не магло заставацца непадзельным.

**ВЯЧКА ВЯЧАСЛАЎ** (? – 1224) – прадстаўнік дынастыі полацкіх князёў, князь Кукейноса, што з'яўляўся крэпасцю на рацэ Заходняя Дзвіна і быў падпарадкаваны Полацку. З 1206 г. пастаянна адбіваў агрэсію крыжакоў, у цяжкіх умовах мусіў перайсці да наўгародцаў, якія ў 1223 г. паслалі княжыць у Юр'еў (Тарту), дзе ён і загінуў пры асадзе крэпасці крыжакамі. Пра той час беларускім пісьменнікам Л. Дайнекам напісаны цікавы раман «Меч князя Вячкі».

**ВЯЧОРКІ** (попрадкі, супрадкі) – даўні беларускі звычай вясковых дзяўчат збірацца асеннімі і зімовымі вечарамі з работай (найчасцей прасці) у адной хаце (там звычайна ў гаспадароў была дачка-нявеста). Каб паглядзець на дзяўчат, а можа, і выбраць тут самую прыгожую і працавітую будучую жонку, сюды прыходзілі і хлопцы. А дзе шмат моладзі, там – жарты, смех, забавы. У савецкі час звычай вячорак яшчэ ў сярэдзіне XX ст. захоўваўся ў многіх мясцінах Беларусі.



*Вячоркі на Нараўляншчыне*

**Г** – чацвёртая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Г («глаголь»), утворанай графічным відазмяненнем візантыйскай літары «гама». У старабеларускай графіцы абазначала фрыкатыўныя гукі «г» і «г'» і інш. Мела таксама лікавае значэнне «тры». У сучаснай беларускай мове абазначае і фрыкатыўныя задненязычныя «г» і «г'» («галава», «прагін»), і выбухныя «г» і «г'» («гонты», «гід») гукі. Яны рэалізуюцца па-рознаму ў залежнасці ад якасці суседніх гукаў або пазіцыі ў слове (канцавой ці неканцавой).

**ГАБЕЛЕН** (шпалера) – дыван-карціна, вытканая ўручную. На Беларусі ў XVII – пач. XIX стст. бязворсавыя дываны-карціны выраблялі на ткацкіх мануфактурах у Нясвіжы, Міры, Карэлічах, Слоніме, Гродне і інш. Ткачы былі з тутэйшых прыгонных, майстры і мастакі таксама мясцовыя і замежныя. Ткалі габелены з раслінным арнаментам, геральдычнымі матывамі, сюжэтнымі кампазіцыямі і партрэтнымі выявамі; выраблялі і абівачную габеленавую тканіну. У 2-й пал. XVIII ст. створана серыя габеленаў, прысвечаная роду Радзівілаў. Адраджэнне беларускага габелена прыпадае на 1960-я. Мастакі А. Кішчанка, А. Бельцюкова, М. Савіцкі і іншыя стварылі новы тып габелена – манументальна-дэкаратыўны.



*Фрагменты габеленаў Г. Юзеевай-Шаблоўскай («Жанчыны Палесся») і Н. Сухаверхавай («Квітненне»)*



Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 234 61 62. E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 04.05.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Карханеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 511
Тыраж 1400 асобнікаў.